**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 20 (893) 18 траўня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



ISSN 2077-8023







*Фота Змітра Лупача.*

Канкур (пераадоленне перашкод вершнікамі на конях) у Барку.

### Верхнядзвінскі раён

## Нетрадыцыйны падыход

■ Чэслаў Якубовіч.

**Па ўсёй Беларусі ў гонар 72-й гадавіны свята Вялікай Перамогі арганізавалі і правялі дзя–сяткі разнастайных і прыгожых мерапрыемстваў.**

А вось у Верхнядзвінскім раёне сёлета вырашылі іх яшчэ больш пашырыць і зрабіць пазнавальнымі для маладзейшых пакаленняў. Таму акрамя традыцыйнага мітынгу, ускладання вянкоў і кветак да помніка, праходжання "Бессмяротнага палка" па вуліцах райцэнтра крыху пазней удзельнікі ўрачыстасцей перамясціліся ў гарадскі парк. Там ужо на ўваходзе іх чакаў стылізаваны макет рэйстага з чырвоным сцягам, а кожны жадаючы мог пакінуць свой подпіс і пажаданні ветэранам. У святочны дзень у цэнтры горада ўпершыню разгарнулі тэматычную кампазіцыю "Мы з мінулага", якую спецыяльна рыхтавалі працоўныя калектывы. Мясцовы масласырзавод раз–гарнуў ваенную палявую кухню, а райбальніца пастаралася абсталяваць палявы шпіталь грозных часоў вайны. Работнікі лясгаса зрабілі сапраўдны ваенны бліндаж. На імправізаваным прывале, як у мінулым, прайшоў святочны канцэрт. Жадаючыя маглі здаць нарматывы папулярнага раней сяродсавецкіх людзей комплексу "Гатоў да працы і абароны". Дарэчы, і ў іншых сферах дзейнасці ў гэтым кутку вобласці стараюцца працаваць эфектыўна і прафесійна, за што невыпадкова імя Верхнядзвінскага раёна было занесена напя–рэдадні на Дошку гонару Віцебскай вобласці. Усе галіны эканомікі раёна сталі прыбытковымі, 70 % мясцовай прадукцыі ідзе на экспарт. Такое прызнанне край заслужыў нястомнай працай, а мясцовы АПК стаў прыкладам эфектыўнай дзейнасці для ўсіх гаспадарак вобласці.

### Пастаўскі раён

## Хто шукае, той знаходзіць

■ Кастусь Александровіч

**У глыбінцы, у адрозненне ад буйных населеных пунктаў, жыццё і занятасць людзей яшчэ больш залежаць ад энергічных і прадпрымальных кіраўнікоў.**

Вось і ў Паставах некалькі гадоў назад практычна спыніўся УП "завод Беліт", адно з структурных падраздзяленняў холдынга "Гарызонт". Тут перасталі выпускаць бытавую тэхніку, паўстала пагроза банкруцтва, але ў гэты крытычны момант сюды прыйшоў новы кіраўнік Дзмітрый Чыжэўскі. Ён адшукаў аднадумцаў, за кароткі тэрмін знайшоў новую нішу, чым заняцца людзям, а завод стаў буйнейшым вытворцам тэхнічнай сурветкі на прасторах СНД. Летась тут не далі закрыць прадпрыемства з-за змен умоў дзейнасці рэзідэнтаў свабоднай эканамічнай зоны "Віцебск", хоць прыйшлося крыху страціць у заробках. Галоўнае ж, што пытанні паставак з-за граніцы патрэбнай сыравіны вырашыліся, а попыт на прадукцыю пастаўчан вялікі. Асабліва запатрабавана нетканае іголкапрабіўное валакно ў рулонах даўжынёй 40 метраў. Пастаўчане на яго пастаўкі для фабрык лёгкай прамысловасці выйгралі два тэндары. Дырэктар завода шукаў патрэбнае абсталяванне для больш поўнай загрузкі нават у Кітаі. Сам працэс вытворчасці ўжо летам стане безадходным, на "Беліт" на працу возьмуць яшчэ 50 рабочых і давядуць штат працуючых да 300 чалавек. Да канца 2017 года гэта прадпрыемства ў райцэнтры поўнасцю загружана заказамі. Пастаўчане актыўна шукаюць і знаходзяць сабе новых кліентаў на замежных тэндарах і рынках, актыўна карыстаюцца падобнымі інтэрнэт-пляцоўкамі. Думаюць на заводзе і на перспектыву на бліжэйшыя гады, на аднаўленне выпуску разам з замежнымі інвестарамі плазменных тэлевізараў, пыласосаў і мульцыварак.

### Полацкі раён

## На мяжы краху

■ Станіслаў Раманчук.

**Зацяжны крызіс у беларускай эканоміцы ўсё больш праяўляецца ў розных сферах дзейнасці.**

Сёлета ўвогуле ўзнікла пытанне аб удзеле ФК "Нафтан" (Наваполацк) у чэмпіянаце Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе. Клубу вясной раілі не заяўляцца на гэта першынство, бо мясцовы НПЗ адмовіўся ад спонсарскай дапамогі ў 2017 годзе з-за складанага фінансавага становішча і стратнай дзейнасці. У такой сітуацыі каманду, якая захавала летась прапіску ў эліце, пакінулі зноў шэраг вядучых ігракоў і яна ніяк не можа адшукаць сваю гульню. За месяц выступленняў у красавіку ў 5 турах навапалачане не забілі ніводнага мяча і сталі аўтсайдэрамі чэмпіяната. З пачатку года нават вядучым майстрам за 4 месяцы не выплацілі ні разу прызначанай зарплаты, выдалі толькі са скрыпам па 900 рублёў. Горш таго футбольны клуб са слаўнай гісторыяй, які двойчы выйграваў Кубак Беларусі, пагуляў у еўракубках, выхаваў шэраг моцных футбалістаў, аказаўся нафтаграду не патрэбным. Камандзе не хочуць дапамамагаць мясцовыя прадпрыемствы і фірмы, у адрозненне ад клуба абласнога цэнтра, ФК "Віцебск". Горад таксама не хоча займацца гарадскім цэнтральным стадыёнам і адмаўляецца перадаваць на баланс клуба. Па добрым рахунку гэту арэну нельга было дапускаць да правядзення матчаў элітнага дывізіёна. Грошай у "Нафтана" практычна няма, дажыліся да таго, што скончыўся бензін і выезд на чарговы матч быў пад пытаннем, не было грошай і на харчаванне. Але самае непрыемнае будзе, што пасярод сезона наваполацкі "Нафтан" можа зняцца з турніру, а гэта будзе скандальным выпадкам у айчынным футболе і з дрэннага боку пакажа Беларусь у Еўропе.

# Аб самым надзённым

## НА СЛОВАХ БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ, ЯК ІМ БЫЛО ЗАГАДАНА, ДА 1 МАЯ ЗАБЯСПЕЧЫЛІ РАБОТАЙ "УСІХ ЖАДАЮЧЫХ"




■ Аляксандр Цішкевіч.

**На справе статыстыка проста не паказвае аб'ектыўную карціну, паколькі беларусы не жадаюць станавіцца на ўлік у цэнтрах занятасці з-за мізэрных дапамог, а высокапастаўленыя ўпраўленцы гавораць тое, што прынята казаць публічна на дадзены момант.**

У пачатку сёлетняй вясны на чарговай нарадзе ў беларускай сталіцы глава дзяржавы паставіў падначаленым на месяцах новую маштабную задачу. Па ягоным заданні да 1 мая паўсюдна павінны былі ўлады працаўладкаваць усіх беспрацоўных, а таксама ўнесці змены ў скандальны Дэкрэт № 3 "Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрымантства". Як добра вядома, у нашай краіне нічога немагчымага няма, а калі А. Лукашэнка сам прыпыніў дзеянне апошняга дакумента, то хваля вулічнага незадавальнення адразу спала, бо да таго ж наступіў для беларусаў важны дачны сезон апрацоўкі ўласных агародаў.

Што датычыць масавага працаўладкавання ўсіх "дармаедаў", то з гэтым было куды складаней, але нібыта на словах і з гэтым нашы ўпраўленцы справіліся. Ва ўсялякім разе ў галіновым Міністэрстве працы і сацабароны Беларусі бадзёра адрапартавалі, што сярэдняя працягласць беспрацоўя ў нас знізілася з 4-х месяцаў летась да 3,8 месяца ў студзені-сакавіку 2017 года. Аднак спецыялісты яшчэ раней сцвярджалі, што да афіцыйнай айчыннай статыстыкі трэба адносіцца з гумарам. Афіцыйна ў Беларусі ўзровень беспрацоўя дзесьці 1 % цяпер, хоць налічваецца 5,4 млн. працаздольных грамадзян. Але ж апошнім часам чамусьці з-за эканамічнага крызісу сітуацыя з занятасцю абвастрылася.

Невыпадкова ж па краіне амаль паўмільёна чалавек атрымалі так званыя пісьмы "шчасця" з патрабаваннямі ўплаціць спецыяльны збор на падставе вядомага Дэкрэта. Ужо нават Белстат паказаў па выніках выбарачнага абследвання дамашніх гаспадарак, што рэальнае беспрацоўе ў нашай краіне 5,8 % ад эканамічнага актыўнага насельніцтва. На справе статыстыка проста не паказвае аб'ектыўную карціну, паколькі беларусы не жадаюць станавіцца на ўлік у цэнтрах занятасці з-за мізэрных дапамог, а высокапастаўленыя ўпраўленцы гавораць тое, што прынята казаць публічна на дадзены момант.

Вось і новапрызначаная міністр працы і сацабароны Беларусі Ірына Касцевіч далажыла, што яе падначаленыя дайшлі да кожнага чалавека, у красавіку працаўладкавалі больш 85 тысяч суайчыннікаў. Па яе словах, "кто хотел найти работу, тот её нашёл", і толькі ў пяці раёнах краіны са 118 узровень беспрацоўя вышэй 1,5 %. З аднаго боку, праўда, што службы занятасці працавалі актыўна, шмат дзе правялі ярмаркі вакансій, кіраўнікі рэгіёнаў праводзілі асабістыя прыёмы і стараліся дапамагчы кожнаму, хто звярнуўся за дапамогай у пошуку працы.

Але ж з канкрэтнымі лічбамі не паспрачаешся. Па афіцыйных дадзеных Белстата, у беларускай эканоміцы ў сакавіку сёлета было занята 4 млн. 372,6 тысячы чалавек, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года колькасць занятых зменшылася яшчэ на 71,2 тысячы працоўчых. Летась увогуле ў Беларусі колькасць звольненых на 108 тысяч чалавек перавысіла паказчык тых, каго прынялі на працу. У адрозненне ад сталіцы і буйных гарадоў, у правінцыяльным мястэчку, у сельскай мясцовасці зараз знайсці нейкую працу – вельмі няпростая задача, бо свабодных вакансій мізэр, а на іншыя патрабуюцца пэўныя спецыялісты з адпаведнай адукацыяй.

Тым часам у беларускі ўрад ад спецыяльна створанай рабочай групы паступілі прапановы аб увядзенні механізму страхавання работнікаў на выпадак страты працы і нявыплат заробкаў з-за банкруцтва канкрэтных прадпрыемстваў і арганізацый. Пакуль падыходы прафсаюзаў і працадаўцаў наконт адлічэння сродкаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва адрозніваліся і ў Саўміне думаюць, якое прыняць канчатковае рашэнне з улікам няпростага становішча у многіх вытворцаў. А вось Нацбанк Беларусі дазволіў з мая іншым банкам крэдытаваць сваіх кліентаў без прадастаўлення даведак аб даходах. Гэта – даволі ліберальны і прагрэсіўны крок, бо грошай свабодных у банках ёсць, беларусы ў фінансах людзі даволі асцярожныя, а людзям стане прасцей купіць у крэдыт патрэбныя тавары ў растэрміноўку.

Нам жа застаецца дачакацца канца вясны, тады Белстат апблікуе новыя афіцыйныя дадзеныя аб рэальным становішчы на рынку працы ў Беларусі па стане на 1 мая. Але ў любым выпадку відавочна, што нідзе ў свеце за кароткі тэрмін не ўдавалася вырашыць сур'ёзныя праблемы з занятасцю насельніцтва. Нагадаем, што мясцовым уладам на працягу года даручана стварыць у Беларусі 70 тысяч новых працоўных месц, што рэальна няпроста. Пэўнае аблягчэнне для нашай эканомікі вясной, сапраўды, з'явілася пасля дасягнення шэрагу дамоўленасцей з Расіяй і выдачы ёй пару крэдытаў. Засмучае толькі, што кіраўнікі краіны па-ранейшаму адмаўляюцца ад наспеўшых рэформ, матывуючы гэта тым, " а вдруг провалимся". Дарэчы, вялікая верагоднасць, што падобны фінал у снежні можа чакаць і іншае даручэнне ўлад даць зарплату, праўда, не па 500 доляраў, а як сталі гаварыць па "тысячы рублёў".

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 18.05.17 | | | | Пятніца 19.05.17 | | | | Субота 20.05.17 | | | | Нядзеля 21.05.17 | | | | Пн.22.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +11 | +16 | +15 | +11 | +13 | +19 | +17 | +14 | +17 | +21 | +19 | +16 | +18 | +22 | +19 | +16 | +18 | +21 |
| Ціск | 754 | 755 | 753 | 751 | 751 | 752 | 751 | 749 | 748 | 750 | 748 | 747 | 746 | 747 | 746 | 745 | 745 | 748 | 748 |
| Вецер м/сек | 2 | 3 | 2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 1 | 3 | 4 | 3 | 2 | 5 | 5 | 3 | 4 | 4 |
| | Пд-У | Пд-З | Пн-З | У | Пд | Пд | Пн-З | Пн | Пн-У | У | Пн | Пн-У | Пн | Пн-У | Пн-У | Пн-У | Пн-У | У | У |
| Вільготнасць | 74 | 58 | 44 | 66 | 66 | 67 | 58 | 74 | 87 | 75 | 51 | 61 | 84 | 76 | 51 | 53 | 85 | 76 | 52 |

## Дзень за днём

**Большасць дзяржпрадпрыемстваў краіны сталі працаваць з рэнтабельнасцю прадаж ад 0 да 5 %. Да 1 мая працаўладкаваць усіх беспрацоўных не атрымалася. На паўгода перанеслі ўступленне ў сілу новага Мытнага кодэкса ЕАЭС. МЗС Беларусі абверг пераканanні расіян, што Мінск з'яўляецца "нахлебником России". У І-м квартале насельніцтва Беларусі зменшылася на 6 тысяч чалавек. За ўезд у пагранпаласу беларусаў абавязалі плаціць. Электронныя цыгарэты прыраўнялі да тытуню па ўмовах курэння і абароту. Амаль месяц у краіне захоўвалася халоднае з ападкамі надвор'е.**

# Важнейшыя навіны свету

**КНДР.** Краіна правяла раніцай чарговыя няўдалыя ракетныя выпрабаванні, ЗША прыгразілі ўвесці новыя жорсткія санкцыі, пускі ракет устрывожылі Японію і Карэю.

**Венесуэла.** Лідар апазіцыі Э Капрылес абвінаваціў прэзідэнта М. Мадуру ў арганізацыі дзяржперавароту, замяніць дзеючы парламент новай Нацыянальнай асамблеяй народа.

**Сірыя.** Праваабаронцы з Human Riqhts Watch заявілі, што войскі рэжыму Б. Асада пры хіматацы ў правінцыі Ітліб выкарысталі савецкія авіябомбы, забілі 90, атравілі сотні.

**Англія.** Глава МЗС Б. Джонсан заявіў, што Брытанія не прызнае Крым часткай Расіі, лічыць анексію паўвострава незаконнай, адстойвае суверэнітэт усіх краін Еўропы.

**Украіна.** Пастаўкі бясплатна з Расіі электраэнергіі ў "ЛНР", як пацвердзіў "Коммерсантъ", спішуць на тэхналагічныя страты кампаніі ФСК, тарыфы ў РФ вырастуць на 2,5 %.

**Расія.** У многіх гарадах краіны рух "Адкрытая Расія" правёў акцыю пад лозунгам "Надоел", іх удзельнікі выступалі супраць удзелу У. Пуціна ў выбарах прэзідэнта.

**Турцыя.** Без тлумачэння прычын на ўсёй тэрыторыі краіны ўрад заблакаваў доступ да найбуйнейшай анлайн-энцыклапедыі ў Інтэрнэце "Вікіпедыя".

**Англія.** За 25 рабочых дзён да датэрміновых выбараў 8 чэрвеня, на 3 гады раней тэрміну брытанскі парламент спыніў сваю дзейнасць і быў распушчаны, урад працуе.

**Славакія.** Падчасафіцыйнага візіту главы ўрадаў Славакіі і Беларусі падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне навукі і тэхналогій, пакет двухбаковых дакументаў.

**Расія.** Сацыёлагі Левада-цэнтра заявілі, што на выбарах прэзідэнта ў 2018 годзе ў першым туры У. Пуцін набярэ толькі 48 % галасоў, спатрэбіцца другі тур галасавання.

**Казахстан**. Услед за даручэннем ураду перавесці родную мову на лацінскі алфавіт прэзідэнт Н. Назарабаеў заклікаў нацыю актыўней вывучаць і ведаць англійскую мову.

**ЗША.** Вучоныя-дыетолагі выявілі тры найбольш карысныя для арганізма прадукты: яблыкі, моркву і грэцкія арэхі, іх неабходна штодзённа есці, у іх найбольш вітамінаў.

**Польшча.** Глава МЗС В. Вашчыкоўскі пацвердзіў, што фінансавая падтрымка тэлеканала "Белсат" стане меншай, але дастатковай для таго, каб ён выжыў і далей дзейнічаў.

**Расія.** У студыі тэлеканала НТБ зноў збілі на здымках перадачы "Место встречи" журналіста з Польшчы Т. Мацейчука, калі ён параўнаў савецкі камунізм з фашызмам.

**Германія.** Старшыня камітэта бундэстага па справах спорту Д. Фрайтаг заклікала МАК не пускаць зборную Расіі з-за допінгу да ўдзелу ў зімовай Алімпіядзе 2018 года ў Карэі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Выхад на сярэднюю зарплату 500 $, як заявіў фінансавы эксперт В. Іасуб, пакуль нават у бліжэйшай будучыні не праглядваецца без запуску друкаванага станка грошай.

**Крычаў.** Адразу 11 міліцыянераў РАУС паскардзіліся міністру МУС І. Шуневічу, што іх прымушаюць выконваць план "па злачынствах" і аддаваць частку заробкаў начальству.

**Астравец.** У мэтах бяспекі амаль 5 тысячам рабочых, занятых на ўзвядзенні БелАЭС, забаранілі праносіць тэлефоны без дазволу службы бяспекі, яе пуск намечаны на 2019 год.

**Мінск.** Чым далей, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, улады будуць спрабаваць ажывіць зомбімадэль эканомікі на савецкіх падыходах, тым горш сацыяльныя перспектывы ў нас.

**Магілёў.** У якасці альтэрнатывы дэкрэту № 3 дэпутат Палаты прадстаўнікоў І. Марзалюк прапанаваў увесці карту сацстрахоўкі паслуг для тых, хто працуе і плоціць падаткі.

**Столін.** З пасады начальніка мясцовага РАУС звольнілі 42-гадовага падпалкоўніка міліцыі В. Філіпчыка адразу пасля затрымання днём за язду ў нецвярозым стане.

**Мінск.** За заклік выйсці ў цэнтр сталіцы на акцыю пратэсту суд Ленінскага раёна пакараў 5 суткамі адміністрацыйнага арышту апазіцыйнага палітыка М. Статкевіча.

**Брэст.** Міліцыя затрымала ля кінатэатра "Беларусь" 4 актывістаў, хоць яны толькі стаялі з чыстымі белымі аркушамі паперы і маўчалі, па краіне было арыштавана каля 30 чалавек.

**Мінск.** У Акадэміі кіравання пры прэзідэнце перад іэолагамі краіны вельмі востра выступіў Мітрапаліт Мінска-магілёўскі, арцыбіскуп Т. Кандрусевіч па свабодзе сумлення.

**Смалявічы.** На месяц раней, чым летась, Нацыянальны аэрапорт "Мінск" прыняў свайго мільённага пасажыра з рэйса з Тбілісі, пасажырапаток сёлета вырас на трэць.

**Нясвіж.** Вечарам у памяшканні раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ўзарваўся газавы кацёл, пацярпелых не было, але ў будынку былі пашкоджаны вокны і дзверы.

**Слонім.** Райцэнтр шакіравала жорсткае забойства нажом і тапарам ва ўласным доме знакамітага земляка, скульптара Л. Богдана з жонкай іх 16-гадовым унукам Аляксандрам.

**Мінск.** Кампазітар Э. Ханок прыгразіў падаць у суд на А. Ярмоленку і Я. Паплаўскую за парушэнне аўтарскіх правоў, забараніў ім выкарыстоўваць музыку 5 папулярных песень.

**Масты.** На пасаду дзіцячага трэнера СДЮШАР прыйшоў3-разовыалімпійскі чэмпіён У. Парфяновіч, ён быў дэпутатам парламента, працаваў раней са зборнымі Расіі і Польшчы.

**Мінск.** Толькі 301 дзень адпрацаваў да звальнення галоўным трэнерам ФК "Дынама" С. Бароўскі, у "эпоху Чыжа" ў клубе памянялі ўжо каля 30 спецыялістаў, а вынікаў няма.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Камітэт Дзяржкантролю выявіў факты выкарыстання службовага транспарту гар- і райвыканкамаў у асабістых мэтах іх кіраўнікамі і іншымі работнікамі.

**Дуброўна.** Моцна пацярпелі жыхары аднаго 5-паверховага жылога дома, іх кватэры заліло ліўнем падчас замены даху пры рамонце жылфонду да абласных "Дажынак-2017".

**Браслаў.** ВУ "Браслаўгаз" парадаваў членаў яшчэ 6 спажывецкіх кааператываў, што сёлета ім падвядуць прыродны газ, намечана пракласці газаправод і да Друйска.

**Талачын.** Віцэ-прэм'ер урада Беларусі В. Жарко правёў выязны прыём грамадзян па хвалюючых пытаннях і паабяцаў ім дапамагчы пабудаваць у райцэнтры басейн.

**Докшыцы.** Мясцовы хлебазавод парадаваў спажыўцоў навінкай – салодкімі кукурузнымі палачкамі "Дамавёнак Кузя" з натуральнай сыравіны з Украіны і без ніякіх дабавак.

**Шуміліна.** Днём падчас узнікшага пажару з інтэрната мясцовай ПМК-70 работнікі МНС эвакуіравалі па лесвіцах 35 чалавек, з іх 13 дзяцей, агонь знішчыў маёмасць на калідоры.

**Полацк.** Супрацоўнікі ДАІ з дапамогай камер відэаназірання і калег з Віцебска адшукалі і затрымалі 41-гадовага палачаніна, які збіў ноччу мужчыну на трасе і уцёк з месца ДТЗ.

**Мёры.** У самым малым горадзе Беларусі колькасць насельніцтва за апошнія 6 гадоў зменшылася яшчэ на 224 жыхары, у ім пражывае цяпер толькі 1500 чалавек.

**Віцебск.** Па ініцыятыве групы ветэранаў, былых блакаднікаў, у СШ № 28 адкрыўся новы музей аб блакадзе Ленінграда, яны ж перадалі школе 120 экспанатаў для экспазіцыі.

**Наваполацк.** Дырэктар ФК "Нафтан" Л. Падліпскі пацвердзіў, што ў клуба даўгі перад былымі ігракамі за 2014 год у суме 4 млрд. рублёў, паўстала пытанне яго існавання.

**Полацк.** Пасярод ночы загарэўся жылы дом у вёсцы Залессе, пасля тушэння пажару ў 5 гадзін раніцы пажарныя знайшлі ў хаце труп загінуўшага 61-гадовага пенсіянера.

**Мёры.** У 7 гадзін раніцы ў райаддзел міліцыі звярнуўся з заявай 70-гадовы пенсіянер, напярэдадні ноччу з ягонай незачыненай пуні невядомы злодзей скраў каня.

**Глыбокае.** Раніцай па невядомай прычыне ўзнік пажар у гаражы ў вёсцы Станулі, агонь знішчыў аўтамабіль "Opel-Astra" 2000 года выпуска, пашкодзіў сцены, столь і дах.

**Паставы.** У спартыўна-турысцкім комплексе "Азёркі" паблізу райцэнтра пачаўся чарговы сезон актыўнага адпачынку на прыродзе, там у лесе адкрыўся новы складаром.

**Наваполацк.** Спартыўная зорная пара А. Герасіменя і Я. Цуркін далі майстар-клас у Палацы водных відаў спорту для юных плыўцоў СДЮШАР "Нафтана".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Прайшло сем гадоў – праблема засталася

**Жыхар дома №1 па вуліцы Горкага, што ў пасёлку Крулеўшчына, Барыс Пугаўка ўжо каторы год дабіваецца вырашэння праблемы адводу вады з падвала дома. Ёсць у жыхароў дома і іншыя праблемы.**

**■ Зміцер Лупач**



Праблемны равок.

Гэта двухпавярховы 12-і кватэрны дом, пабудаваны ў 1991 годзе. Праблемы з затапленнем падвала пачаліся з-за таго, што жыхары дома навазілі зямлі пад агароды, з-за чаго перастала працаваць сістэма адводу сцёкавых вод. Пасля ўсё ж камунальнікі вывезлі лішні грунт, але некаторыя суседзі пакрыўдзіліся з-за гэтага на Барыса Пугаўку. Пасля чаго суседка засыпала равок, па якім адводзілася вада, і пасадзіла на тым месцы кветкі. У выніку вада стала затапляць падвал.

Пра гэту праблему пісала газета "Вольнае Глыбокае" яшчэ ў 2010 годзе. Спатрэбілася некалькі год, каб вырашыць гэту праблему. Суседка Камінская атрымала папярэджанне, і равок быў адноўлены. Але па словах Барыса Баляслававіча, яго глыбіня недастатковая, і вада па-ранейшаму падтапляе падвал. Каб прасушыць падвал, жыхары адчыняюць дзверы, а вецер іх ламае, за мінулы год былі замененыя пяць дзвэрэй, а іх кошт вылічваюць потым з жыльцоў дома.

На маю думку, вырашыць праблему з адводам вады не так і складана. Патрэбна толькі воля кіраўніцтва жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Дрэнаж можна пралажыць з дапамогай перфараваных труб, якія будуць ляжаць у зямлі. І тады засыпацца адвод не будзе, і кветкі суседзям можна зверху садзіць. Як гэта зрабіць, шмат інфармацыі ў Інтэрнэце.

Вядома, на гэта патрэбны сродкі. Але, здаецца, гэтыя сродкі не такія і вялікія, калі ўлічыць, колькі іх кожны год затрачваецца на адкачку вады, бо праблема гэта стаіць не першы год.

Яшчэ адна праблема ў тым, што 12 красавіка гэтага года электрыкі адключылі электрычнасць у падвале. Яны спасылаюцца на тое, што жыльцы павінны кожны са сваёй кватэры правесці электрычнасць. Але Барыс Пугаўка з гэтым не згодны, бо электрычнасць праведзеная згодна з праектам і ў доме маецца агульны лічыльнік для падвальнага памяшкання. Старшыня Крулеўшчынскага сельсавета Алена Таляронак у гэтай сітуацыі на баку электрыкаў, яна лічыць, што жыхары павінны правесці электрычнасць кожны са сваёй кватэры.

Яшчэ адна асаблівасць падвала – згодна з праектам ён лічыцца супрацьрадыяцыйным укрыццём, і жыхары маюць толькі часовы дазвол ім карыстацца.

Тут я дазволю сабе не пагадзіцца з думкай старшыні сельсавета. Бо калі кожны правядзе электрычнасць у падвал са сваёй кватэры, то як будзе выглядаць тады дом. А калі дом пяціпавярховы, тады як? Ці ўнутры, ці звонку дома вешаць цэлы жмут кабеляў?

Можна ж плаціць па агульным лічыльніку, а калі ўжо жыльцы не згодныя, тады ставіць кожнаму ў падвальнае памяшканне свой лічыльнік. Але ж там невялікі расход электрычнасці, можна, здаецца, аплочваць яе і па агульным лічыльніку. Гэта мая думка.

Таксама жыхары другога паверха скардзяцца, што ў доме цячэ дах і ўлады ніяк на гэта не рэагуюць. З-за гэтага ў кватэрах стаіць павышаная вільготнасць, якая дасягае 80%, хаця па норме павінна быць 60%. І вось тут самі жыхары гэту праблему не ў стане вырашыць. Каб адрамантаваць дах, патрэбны праект, выдзеленыя грашовыя сродкі і праца будаўнікоў. А найперш, воля і рашэнне ўладаў! А яе пакуль няма.

Таму жыхарам дома можна параіць толькі пісаць пісьмовыя звароты да ўладаў – кропля і камень точыць, на маю думку, мясцовая ўлада вымушаная будзе адрэагаваць на зварот грамадзян. А мы як журналісты, са свайго боку будзем трымаць гэта пытанне на кантролі.



Сцяна, якая зацякае.

# Не пакідайце дзяцей адных!!!




**У Глыбоцкім раёне з 12 траўня па 2 чэрвеня 2017 года праводзіцца рэспубліканская акцыя "Не пакідайце дзяцей адных!" арганізаваная Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях.**

Акцыя, прымеркаваная да Міжнароднага Дня сям'і, пройдзе ў 3 этапы. Першыя 2 этапы пройдуць у шматдзетных сем'ях, дзяржаўных установах адукацыі, дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе, 3-і этап – на дзіцячай пляцоўцы "Брыганціна".

Назва акцыі кажа сама за сябе, мэта яе правядзення – яшчэ раз звярнуць увагу на праблему дзіцячай гібелі і дзіцячага траўматызму.

Практыка паказвае, што і дарослыя людзі вельмі часта церпяць з-за сваёй уласнай неасцярожнасці, бяспечнасці, з-за нежаданне прадбачыць наступствы сваіх неабдуманых учынкаў. А што казаць пра дзяцей, у якіх адсутнічае жыццёвы досвед, няма навыкаў бяспечных паводзін. Як ні сумна, менавіта дзеці церпяць на пажарах, дарогах, вадаёмах, у лесе, бо проста не ведаюць, як паводзіць сябе ў экстрэмальных сітуацыях, якія склаліся.

Штогод вялікая колькасць дзяцей становяцца ахвярамі надзвычайных сітуацый. Дарослыя, пакідаючы дзяцей без нагляду на некалькі хвілін, проста не задумваюцца аб тым, што можа адбыцца бяда. Хоць менавіта за гэтыя кароткія хвіліны здараюцца непапраўныя трагедыі.

У Рэспубліцы Беларусь штогод рэгіструецца больш паўмільёна выпадкаў розных траўмаў, з іх пятую частку атрымліваюць дзеці. У 2016 годзе – 151 536 (!!!) дзяцей атрымалі траўмы рознай ступені цяжару, загінулі 154 дзіцяці (з іх на пажарах загінула 8 дзяцей і 8 траўміравана).

***Глыбоцкі РАНС.***

# Былога начальніка крымінальнай міліцыі Мёрскага РАУС прысудзілі да сямі гадоў пазбаўлення волі

**Суд Фрунзенскага раёна Мінска два дні абвяшчаў прысуд 12 фігурантам крымінальнай справы. Па версіі следства, яны рабілі ўрэзкі ў трубаправод і выкралі 80 тон дызельнага паліва. Абвінавачаных прысудзілі да 3,5-11 гадоў пазбаўлення волі, паведамляе Tut.by**

Жыхароў Віцебскай вобласці абвінавацілі ў тым, што два гады яны кралі дызельнае паліва, прычыніўшы шкоду на суму ў 102 481 рубель. Амаль усе абвінавачаныя сваю віну адмаўляюць, у тым ліку былы міліцыянт Сяргей Кісляк. З 2004-га па 2012 год ён быў першым намеснікам начальніка Мёрскага РАУС, потым сышоў на пенсію.

На абвяшчэнне прысуду ў Мінск з Віцебскай вобласці прыехала каля 50 чалавек, у зале быў аншлаг. За кратамі — супрацоўнік Таварыства ратавання на вадзе, слесар, індывідуальны прадпрымальнік, ахоўнік. Прысуд суддзя зачытвала два дні, на поўным абвяшчэнні настаялі адвакаты.

Суд Фрунзенскага раёна Мінска апраўдаў некалькіх абвінавачаных па ч. 1 ст. 309 КК «Наўмыснае прывядзенне ў непрыдатнасць транспартнага сродку або шляхоў зносін», але прызнаў усіх 12 фігурантаў вінаватымі ў крадзяжы і прысудзіў да пазбаўлення волі. Былы міліцыянт Сяргей Кісляк бліжэйшыя 7 гадоў правядзе за кратамі, арганізатар Віктар Шылінскі — 11. Сямёра атрымалі ад 3,5 да 6 гадоў. Ва ўсіх будзе канфіскаваная маёмасць. Яшчэ трое абвінавачаных атрымалі адтэрміноўку пакарання і адпушчаныя пад падпіску аб нявыездзе.

Нагадаем, суд пачаўся ў сакавіку. Усе 12 чалавек абвінавачваліся па ч. 4 арт. 205 КК «Крадзёж, здзейснены арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры», санкцыя артыкула прадугледжвае пазбаўленне волі ад 3 да 12 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Акрамя таго, яшчэ пяцярых таксама абвінавачвалі па ч. 1 ст. 309 КК «Наўмыснае разбурэнне магістральнага трубаправоднага транспарту». А дзеянні ахоўніка лінейнай вытворчадыспетчарскай станцыі «Дзісна» Уладзіміра Яроменка кваліфікавалі па ч. 3 арт. 424 КК «Злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі».

Па версіі следства, былы міліцыянт Сяргей Кісляк інфармаваў групу, тэлефанаваў і папярэджваў: «Глядзіце акуратна, сёння здзейснене забойства, могуць быць пасты». Дызельнае паліва абмяркоўвалі не наўпрост, а фразамі: «Збіраем грыбы, колькі кошыкаў?». Кіраваў групай Віктар Шылінскі, ён даваў усім распараджэнні, казаў, дзе трэба зрабіць урэзкі, забяспечваў бяспечную перавозку паліва ў ангар.

Адвакаты абвінавачаных Алег Варакса і Максім Конан настойвалі: супрацоўнікі міліцыі не маглі назіраць за іх кліентамі 24 гадзіны ў суткі, бо мясцовасць, дзе здзяйсняўся крадзеж дызпаліва, адкрытая, застацца незаўважаным немагчыма. Акрамя таго, самае галоўнае пытанне: чаму пацярпелым бокам прызналі УПП «Захад-Транснафтапрадукт». Бо крадзеж адбываўся з нафтапрадуктаправода ЛПДС «Дзісна» (Рэспубліка Беларусь) — ЛПДС «Ілуксе» (Латвійская Рэспубліка), то бок УПП «Захад-Транснафтапрадукт» аказваў толькі паслугу па транспарціроўцы нафтапрадуктаў на падставе доўгатэрміновай дамовы. Але гэта не значыць, што прадпрыемству перайшло права ўласнасці на нафтапрадукты.

— *Прысуд з'яўляецца неабгрунтаваным. Судовае следства праведзена аднабакова і няпоўна, бо судом неабгрунтавана адхіляліся шматлікія хадайніцтвы абароны, у выніку гэтага засталіся нявысветленымі абставіны, высвятленне якіх магло мець істотнае значэнне пры пастанове прысуду,* — лічыць адвакат Алег Варакса.

Прысуд не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

***Паводле nn.by***




Фота: Кацярына Барысевіч, TUT.BY

**Травень - апошні месяц вясны, але прырода не цешыць цёплымі днямі і добрым надвор'ем. Нягледзячы на гэта працы ў супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету менш не становіцца. Практычна штодня інспектары затрымоўваюць парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, рознага роду "браканьераў" і проста нахабных грамадзян, якім закон "не пісаны".**

# Інспектары ўратавалі браканьера ад крымінальнай справы!

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*



Толькі ў перыяд з 6 па 10 траўня інспектары затрымалі 6 парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, з іх 3 чалавекі за крымінальна-каральныя дзеянні.

8 траўня каля 4 гадзін раніцы інспектарамі на возеры Кавалькі Пастаўскага раёна затрыманы жыхар г. Паставы, які ўсталяваў браканьерскія сеткі, але сам стаў здабычай інспектараў. Парушальнік вырашыў, што яшчэ вельмі рана, інспектары спяць дома, але памыліўся. Усяго грамадзянін **Н.** пры дапамозе дзвюх лесачных сетак здабыў 66 асобінаў карася срэбнага і 3 асобіны ляшча, агульнай вагой 30 кг., урон прычынены прыродзе склаў 249 базавых велічынь. Матэрыялы накіраваныя ў следчыя органы для ўзбуджэння крымінальнай справы.

10 траўня каля 1 гадзіны ночы супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі праводзілі мерапрыемствы па ахове прыроды паблізу г.п. Варапаева Пастаўскага раёна, дзе на адным з вадаёмаў затрымалі двух мясцовых жыхароў, якія здабывалі рыбу сеткамі, усяго было здабыта 36 асобінаў розных відаў рыбы, а ўрон, прычынены прыродзе, склаў 425 базавых велічынь ці амаль 10 тысяч рублёў. Матэрыялы накіраваныя ў следчы камітэт Пастаўскага раёна для дачы прававой адзнакі дзеянням парушальнікаў.

У рэдкія цёплыя травеньскія дні карась, які водзіцца ў велізарных колькасцях у нашых азёрах, ідзе на нераст, і шмат хто, карыстаючыся тым, што рыба адкладае ікру каля берага ў траве, якая абцяжарвае яе перасоўванне, ловяць карася рукамі, падхватнікамі, тым самым парушаючы закон. Для аматараў такой рыбалкі нагадваем, што падобныя незаконныя дзеянні падпадаюць па ч.1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аб адміністрацыйных парушэннях" і прадугледжваюць штраф ад 20 да 50 базавых велічынь і пакрыццё ўрону за кожную вылаўленую рыбу. Мінімальнае пакаранне за лоўлю рыбы рукамі ці падхватнікамі ў перыяд нерасту складзе 460 рублёў. **Вам гэта трэба?**

Аднакасобных грамадзян не палохаюць велізарныя штрафы, так 8 траўня 2017 года на сажалцы паблізу в. Ломашы Глыбоцкага раёна інспектары затрымалі мясцовага жыхара, які рукамі паспеў злавіць 6 асобінаў карася, які ў гэты дзень актыўна нераставаў, але незаконныя дзеянні маладога чалавека своечасова спынілі інспектары, інакш ён мог бы налавіць на крымінальную справу для сябе самога. Зараз парушальніка чакае штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь і выплата прычыненай шкоды ў памеры 18 базавых велічынь.

З набліжэннем тэрміна канца забароны і вызначаных абмежаванняў на лоўлю рыбы Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз нагадвае рыбаловам-аматарам.

З 10 красавіка па 8 чэрвеня на тэрыторыі Віцебскай вобласці дазволена ажыццяўляць лоўлю рыбы толькі на адну вуду з адным кручком, або на адзін спінінг, з берага, без заходу ў ваду, са штучных збудаванняў (масткоў, муроў і г.д.). Ва ўказаны перыяд часу забаронена выкарыстанне плавальных сродкаў усіх відаў і тыпаў.

На тэрыторыі Віцебскай вобласці **забароненая лоўля сома з 31 траўня па 1 ліпеня, лоўля судака забароненая з 15 красавіка па 30 траўня.**

Нагадваем грамадзянам аб адказнасці за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства.

Так, за знаходжанне грамадзяніна ў рыбалоўных угоддзях з забароненымі прыладамі рыбалоўства (сетка, восці, мярэжа і г.д.) прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад 5 да 30 базавых велічынь. За незаконную здабычу рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства адказнасць ад 20 да 50 базавых велічынь з пакрыццём урону за вылаўленую рыбу.

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжрайінспекцыі.

**Тэлефоны "гарачай лініі" Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8-02156-5-59-80, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 мтс.**

# Трое школьнікаў разбурылі каля сотні помнікаў на каталіцкіх могілках у Пастаўскім раёне

**Каля сотні надмагільных помнікаў зламыснікі разбілі на каталіцкіх могілках у вёсцы Груздава Пастаўскага раёна. Праваахоўнікі выявілі траіх падазраваных непаўналетніх, паведаміла БЕЛТА афіцыйны прадстаўнік УУС Віцебскага аблвыканкама Вольга Шкуратава.**



Пабітыя помнікі вяскоўцы заўважылі не адразу. Пра вандалізм адна з мясцовых жыхарак паведаміла 13 мая. На месца выбыласледча-аператыўная група, але па гарачых слядах знайсці зламыснікаў не ўдалося. Апытанне жыхароў вёскі дапамагло выявіць падазраваных.

«Завадатарам аказаўся вучань 3 класа, хлопчык праблемны, з няшчаснай сям'і. Ён падбіў яшчэ двух сямікласнікаў, адзін з якіх характарызуецца станоўча, пайсці з ім на могілкі, каб сабраць цукеркі, якія сваякі пакінулі ля надмагілляў у дзень святкавання Вялікадня. Аднак зборам ежы справа не абмежавалася — з хуліганскіх памкненняў хлопцы разбілі некалькі помнікаў. Па прызнанні саміх дзяцей, з таго дня яны чынілі свае «свавольствы» на могілках яшчэ некалькі разоў», — патлумачыла Вольга Шкуратава.

Паколькі ўсе трое з'яўляюцца непаўналетнімі, крымінальная справа не распачатая. Праверка па факце працягваецца, кампетэнтныя органы працуюць з бацькамі, якім прыйдзецца адказваць за ўчынкі дзяцей. Яны будуць прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафаў. Акрамя таго, камісія па справах непаўнагадовых разгледзіць пытанне аб накіраванні дзяцей у спецустанову.

*БелТА.*



■ **Уладзімір Скрабатун**

# Адбыўся Міжнародны фестываль рэтра - і класічных аўтамабіляў "Рэтра-Мінск - 2017"

У бягучым годзе ізноў праводзіўся фестываль, які прысвечаны Дню Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, які з 1998 года адзначаецца ў нашай краіне ў другую нядзелю траўня.



**На здымку: рэтрааўтамабілі з Прыбалтыкі па дарозе ў Мінск зрабілі прыпынак у Глыбокім.**
*Фота Надзеі Маліноўскай.*

Фестываль сабраў уладальнікаў рарытэтных аўтамабіляў з Беларусі, Іспаніі, Казахстана, Латвіі, Літвы, Расіі, Украіны, Фінляндыі і Эстоніі. Былі прадстаўленыя аўтамабілі 1940-70 гг выпуску.

Тры рэтрааўтамабілі па дарозе з Эстоніі ў Мінск зрабілі прыпынак на прыкасцёльным пляцы ў Глыбокім. Гэты факт выклікаў вялікую цікавасць глыбачан, асабліва тых, якім тым часам пашанцавала знаходзіліся побач. Шмат хто зрабіў сэлфі на памяць.

Рэтра-парад у Мінску сабраў 150 найрэдкіх экіпажаў з усяго свету. Сваіх «легендаў» прадставілі і беларусы.

# У Беларусі налічваецца 10700 ветэранаў вайны

**У Беларусі, па дадзеных на 1 красавіка бягучага года, пражываюць 10,7 тыс. ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, у тым ліку больш за 7 тыс. інвалідаў і ўдзельнікаў вайны. Пра гэта паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.**

На 1 красавіка ў краіне налічвалася 3,1 тыс. чалавек, узнагароджаных ордэнамі або медалямі СССР за самаадданую працу і бездакорную воінскую службу ў тыле ў гады вайны, а таксама менш за 200 — хто працаваў на аб'ектах супрацьпаветранай абароны, будаўніцтве абарончых збудаванняў, прыфрантавых участках чыгунак і аўтамабільных дарог, членаў экіпажаў суднаў, інтэрніраваных у пачатку вайны ў партах іншых дзяржаў.

У Беларусі пражывае 44 чалавекі, якія бралі ўдзел у складзе спецыяльных фарміраванняў у размініраванні тэрыторый і аб'ектаў пасля вызвалення ад нямецкай акупацыі ў 1943-1945 гадах.

У краіне жывуць амаль 500 чалавек, якія працавалі на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях Ленінграда ў перыяд блакады і ўзнагароджаны медалём «За абарону Ленінграда», знакам «Жыхару блакаднага Ленінграда».

У рэспубліцы налічваецца больш за 700 інвалідаў з дзяцінства ў выніку ранення, кантузіі, калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі або з іх наступствамі.

Членамі сем'яў загінуўшых воінаў і партызан з'яўляюцца 732 чалавекі.

Былымі вязнямі фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і іншых месцаў прымусовага ўтрымання прызнаны 17,7 тыс. жыхароў Беларусі.

*БелТА.*

# У Лынтупах пры ўзворванні гароду напароліся на снарад



**7 траўня ў 11:05 пастаўскія выратавальнікі атрымалі паведамленне пра тое, што ў Лынтупах на прысядзібным участку быў выяўлены выбуханебяспечны прадмет.**

Як сталася, мужчына араў гарод, калі яго плуг вывярнуў снарад. Супрацоўнікі МНС абгарадзілі небяспечны ўчастак і паведамілі аб знаходцы ў міліцыю.

Увечары з Полацку прыехалі сапёры вайсковай часткі 5530, якія ў 18:30 абясшкодзілі боепрыпас. Да іх прыбыцця знаходку ахоўвала міліцыя, а пажарнікі забяспечвалі бяспеку на прылеглай тэрыторыі, паведамляецца прэс-службай МНС.

# Віцебскі абласны суд апраўдаў Багуслава Мацука

**3 траўня Віцебскі абласны суд апраўдаў мёрскага каардынатара Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Багуслава Мацука.**

У судзе абскарджвалася рашэнне Мёрскага раённага суда, які ў красавіку апраўдаў актывіста, але той вырашыў, што беспадстаўнага абмежавання волі на трое сутак не дарує.

У выніку трохдзённае затрыманне Багуслава Мацука 24-26 сакавіка было прызнанае незаконным і абласным судом.

***bchd.info***

## МНС інфармуе
**на 16.05.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 291;
Гібель людзей – 45, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 18;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Рассельгаснагляд узмоцніць кантроль дзевяці беларускіх малочных прадпрыемстваў

**Рассельгаснагляд з 15 траўня узмоцніць лабараторны кантроль дзевяці прадпрыемстваў з Беларусі, гаворыцца ў прэс-рэлізе, які апублікаваны на сайце арганізацыі.**

Па дадзеных нагляднага ведамства, падведамнае яму «Бранская МВЛ» выявіла неадпаведнасці нормам і патрабаванням Расіі і Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕЭС) у прадукцыі жывёльнага паходжання, якая паступіла з Беларусі.

Узмоцнена кантраляваць пачнуць: ААТ «Слуцкі сыраробны камбінат» і яго Капыльскі і Любанскі філіялы, ААТ «Баранавіцкі малочны камбінат», ААТ «Кобрынскі масласырзавод», ААТ «Пружанскі малочны камбінат», ААТ «Бабушкіна крынка», ААТ «Малочная кампанія «Навагрудскія дары», ААТ «Маладзечанскі малочны камбінат», КВУП «Мазырскія малочныя прадукты» і ААТ «Лепельскі малочна-кансервавы камбінат».

Таксама часова абмяжуюць пастаўку прадукцыі з ПУП «Малочны полюс» з-за паўторнага выяўлення рэштак нарфлаксацыну і афлаксацыну, а таксама пеніцыліну і тылазіну ў сухім абястлушчаным малацэ.

***rbc.ru***



**Алег Лысёнак,** МЭГА "Прырода і мы"

# Праект, які натхніў настаўнікаў і навучэнцаў

**– "Развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый Глыбоцкага раёна"**

**Міжнароднае экалагічнае грамадскае аб'яднанне "Прырода і мы" са студзеня 2017 года пачала рэалізацыю праекта "Развіццё патэнцыялу сельскіх тэрыторый Глыбоцкага раёна", разлічаны на адзін год.**

Дадзены праект ахопіць тэрыторыі ўсіх 13 сельскіх выканкамаў, уключаючы г.п. Падсвілле. Сутнасць праекта складаецца ў наступным: абследаванне тэрыторый сельвыканкамаў на выкананне экалагічных нормаў і патрабаванняў, ухіленне звалак, ачыстка вадаёмаў, аднаўленне старадаўніх паркаў, абсталяванне месцаў адпачынку, экалагічных сцежак, стварэнне экалагічных пастоў і школьных экалагічных атрадаў (патрулёў).

У наш час выкананы шэраг работ на тэрыторыі Узрэцкага, Залескага, Плісказа, Удзелаўскага, Падсвільскага, Азярэцкага сельскіх выканаўчых камітэтаў.

### Азярэцкі сельскі выканаўчы камітэт.

Паводле праекта МЭГА "Прырода і мы":

– праведзена абследаванне тэрыторыі сельскага выканкама,

– створаны Азярэцкі грамадскі экалагічны пост і школьны экалагічны атрад;

– у в. Азерцы, побач школы, усталявана адкрытая альтанка (экалагічны клас);

– драўляны масток заменены на каваны дэкаратыўны, жалезны;

– настаўнікамі школы створана эка-сцежка: школьны двор – школьны дэндрарый – кветачна-дэкаратыўны аддзел – прышкольны ўчастак – цяпліца – луг "Коткіна гара" – вадаём "Сляпое азярцо" – ельнік "Шырыкоўшчына" – сядзібна-паркавы комплекс.

Паводле праекта, экасцежка ахопіць усе азёры, рэкі, паркі Азярэцкага сельсавета. Фактычна, гэта будзе экалагічны маршрут, які можа быць у далейшым скарыстаны ў якасці экатурыстычнага, з правядзеннем маніторынгу вадаёмаў, выяўленнем усіх парушэнняў заканадаўства па ахове прыроды: сцёкаў фермаў, звалак, плацін баброў.

Праект натхніў настаўнікаў і навучэнцаў школы на правядзенне работ па добраўпарадкаванні і акультурванні тэрыторый, якія прылягаюць да школы: вычышчаныя сажалка і ўся тэрыторыя да бліжэйшага возера, дзе будзе праходзіць экасцежка. На беразе возера плануецца абсталяваць прычал, што дасць магчымасць арганізаваць і водны маршрут. Уздоўж сцежкі пасаджаны дэкаратыўныя хмызнякі.

На правядзенне вышэйпералічаных работ МЭГА "Прырода і мы" выдаткавана 2220 руб. (дваццаць два мільёны 120 тысяч неданамінаваных руб.) Работы па добраўпарадкаванні будуць працягвацца: побач школы плануецца стварыць штучны вадаём з дэкаратыўнымі воднымі раслінамі.



**Кветкавы рай ля Азярэцкай сярэдняй школы.**



**Побач школы, усталяваная адкрытая альтанка (экалагічны клас).**



**Драўляны масток заменены на каваны дэкаратыўны, жалезны.**

### Крыху гісторыі і ўтварэння Азярэцкага сельсавета.

Ён мае сваю багатую гістарычную спадчыну: сядзібны комплекс Зігмунда Аскеркі, касцёл Святых Пятра і Паўла.

Апошнім уладальнікам маёнтка Азерцы быў Зігмунд Аскерка з роду герба "Мурдэліа", які паходзіць з полацкіх мяшчан. Былы панскі маёнтак амаль захаваўся. Ён быў пабудаваны ў першай палове XIX стагоддзя. Гэта цэлы комплекс цагляных пабудоў на каменных падмурках з садам, сажалкамі і паркам.

Будынак з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю і ахоўваецца дзяржавай.

Сядзіба ў розны час служыла памяшканнем для Дома культуры (правая частка), бібліятэкі (сучаснае складское памяшканне крамы), дзіцячага саду. Цяпер, на жаль, яна мае закінуты і непрывабны выгляд.



**Герб Мурдэліа**

У доме ўпраўляючага сядзібай Барысевіча (насупраць сядзібы) знаходзіцца цяпер нядзельная школа. Тут даўней размяшчалася кухня, дзе рыхтавалі ежу для пана і яго працаўнікоў і зала для ўрачыстасцей, дзе праводзіліся калядныя ранішнікі для дзяцей, вяселлі. Сённяшні жылы дом праз дарогу ад будынка ўпраўляючага раней служыў халадзільняй для малака.

Старажылы згадваюць, што панскі двор быў вельмі прыгожым, дагледжаным, з роўнымі і чыстымі дарожкамі.

У памяшканні сённяшняй бібліятэкі-музея этнаграфіі і музычнай школы ў тыя часы пражывала восем сем'яў панскіх працаўнікоў. На карнізах яшчэ захаваўся надпіс "Oskierka. Ozierce".

Сядзібны комплекс акрамя жылых памяшканняў уключаў і гаспадарчыя пабудовы: стайні, дзе разводзілі завадовых канёў, свінарнік, дзе выгадоўвалі свінняў англійскай пароды, кароўнік, халадзільню і карэтню.

У 1903 годзе Аскерка пабудаваў спіртзавод і першым у акрузе набыў аўтамабіль.

Пасля ўсталявання польскай улады, з 1921 года, Азерцы былі маёнткам Глыбоцкай гміны.

Касцёл пабудаваны на месцы знесенай у 2004 годзе камяніцы, якая ўваходзіла ў сядзібна-паркавы ансамбль фальварка і была шорнай майстэрняй для пашыву конскай збруі. Храм пабудаваны на асабістыя сродкі фермера-арандатара Паўла Дулінца. Пачаў дзейнічаць у 2007 годзе.

У невялікім прысядзібным парку, які закладзены у першай палове XIX стагоддзя, растуць кусты снежнаягадніку, каштаны, грэцкія арэхі, лістоўніца еўрапейская. У 1959 годзе ў парку ўсталяваны помнік азярчанам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Першая школа на тэрыторыі сельсавета з'явілася ў 1920 годзе. У в. Абруб-Беразвецкі, у доме Фёдара Казачка, была адкрыта пачатковая школа.

У 1938/39 г. былі адкрытыя школы з польскай мовай навучання ў в. Абруб-Беразвецкі і в. Камяншчына. Школы месціліся ў хатах мясцовых жыхароў.

Пасля вайны пачатковыя школы былі адкрытыя ў Дзмітрыеўшчыне, Кісарэўшчыне, Пялеўшчыне, Гваздове.

У 1940 г. ў в. Мамаі быў перавезены "асадніцкі" дом, пабудаваны драўляны будынак 4-класнай школы з навучаннем на беларускай мове.

У 1941 - 1944 гг. у в. Мамаі былі адкрыты 5 і 6 класы. Будынак школы згарэў у 1944 г., падчас праходжання фронту праз вёску, і ў 1956 г., але была адбудаваная.

У 1973 годзе Мамайская школы была перавезена ў Азерцы.

У першыя дні існавання Азярэцкай школы быў закладзены дэндрарый. У ім расце больш за 30 відаў драўняна-хмызняковых формаў раслін. Сярод іх: амерыканскі белы клён, яблыня Нядзведскага, блакітная елка, бяроза барадавістая, сумах, лістоўніца і іншыя.

Падрабязней аб гісторыі Азярэцкага сельсавета наведвальнікі могуць пазнаёміцца на экалагічнай сцежцы.

Напрыканцы хацелася б сказаць добрыя словы пра калектыў Азярэцкай школы, асабліва яе дырэктара Людмілу Аляксандраўну Лукашэвіч, кіраўніка школьнага экалагічнага атрада, географа Тацццяну Леанідаўну Красінскую, біёлага Лідзію Пятроўну Панцялееву. У школе працуюць энтузіясты, падзвіжнікі, неабыякавыя да прыроды роднага краю. Калектывам школы створаны школьны дэндрарый, мноства кветнікаў. Усе працуюць на прышкольным участку, у цяпліцы. Тэрыторыя Азярэцкай школы з'яўляецца ўзорам патрыятычнага, экалагічнага, эстэтычнага выхавання навучэнцаў і дарослага насельніцтва.



**Сядзібны дом некалі пабудаваны Корсакамі, потым уласнасць Аскеркаў.**



**Будынкі колішняга маёнтка – кухня і зала для ўрачыстасцей – у цэнтры Азерцаў.**

